Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 2 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня 23-га чэрвеня 1933 г. | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле ўмовы. | Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі ў нядзелі і чацьвяргі ад 10 да 2 гадз. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр., у 3 » —70 », у 1/2 года—1.30, у 1 год —2.50

## За родную школу!



„Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў".
Я. Купала.

Старым звычаем канец школьнага году зьяўляецца для нас, беларусаў, тым мамэнтам, калі кожны бацька і матка, усё падрастаючае маладое пакаленьне ставіць перад сабой з усей вастратой пытаньне: „З чым спаткае іх новы надыходзячы школьны год? Ці беларускі народ і надалей будзе пазбаўлены свайго натуральнага права—мець школу ў роднай мове"?

...І перад намі вырысоўваецца доўгі, цярністы шлях, шлях шматгадовага дамаганьня свае школы, шлях калі тысячы бацькоў складалі дзесяткі тысяч школьных дэкларацыяў, калі ў многіх мясцовасьцях былі створаны саматужныя беларускія школы. Перад нашымі вачыма паўстаюць жывыя вобразы захопленьня і энтузіязму, вобразы ахвярнасьці і спачуцьця, з якімі шырокія масы гарнуліся да тварэньня роднай школы. І... нам прыпамінаюцца смутныя, рэжучыя сэрца, малюнкі горкага плачу дзетак, калі гэтыя школы, дзякуючы цэламу шэрагу прычынаў, змушаны былі спыніць сваё існаваньне.

І сягоньня іначай. Беларускай школы—гэтай наймагутнейшай крыніцы нацыянальнага ўсьведамленьня і адраджэньня—трэба проста сказаць, мы бадай ня маем. Соткі тысяч дзяцей беларускага народу адведвае сяньня польскія школы, школы, аб уплыве якіх на народна-адраджэнскую сьведамасьць гэтых будучых грамадзян ня трэба шмат гаварыць. А гэта, бязсумліву, вялікая пагроза для ўсяго нашага народнага ідэалу, бо яно стрымлівае пасьпех нашай працы, бо гэта няспрыяюча адбіваецца на ўсім беларускім культурна-асьветным жыцьці.

Аб значэньні школы ў роднай мове ня трэба, хіба, казаць. Яго добра разумее кожны менш больш сьвядомы беларус, яго разумее кожын народ, прайшоўшы пэрыяд адраджэнскай барацьбы. Родная школа ня толькі вучыць чытаць і пісаць па-беларуску, ня толькі з большым пасьпехам зьнішчае адвечную цемру народу, але ў першую чаргу зьяўляецца той сілай, каторая ўзносіць народ на вышэйшую ступень нацыянальнай сьведамасьці, ёсьць тым чыньнікам, які ажыўляе народныя масы ў іх імкненьні да сьвятлейшых дзён. Школа ў роднай мове—у нашых варунках—гэта сіла, якая дае народу праўдзівыя сокі да жыцьця, якая не дапускае яго да нацыянальнай сьмерці. Таму дамаганьне беларускай школы зьяўляецца дамаганьнем права беларускага народу на існаваньне. *Родная школа—гэта нашае жыцьцё, як народу.*

Народныя масы нашае краіны ўжо даўно зразумелі гэтую праўду, і ня толькі зразумелі, але адразу прыступілі да правядзеньня яе ў жыцьцё. І запраўды. Паўстаючыя ў папярэднія гады беларускія школы былі выключна вынікам творчае энэргіі сомога „мужыка". Дзесяткі тысяч дэкляцыяў з дамаганьнем роднае школы былі нічым іншым, як выяўленьнем волі нашага народу да змаганьня з культурнай адсталасьцю. І з году ў год па ўсей Заходняй Беларусі разносяцца галасы, жадаючыя *для сваіх дзяцей свае школы.*

Кончыўся 1932—1933 школьны год... Перад сьвядомым беларускім грамадзянствам, перад усім нашы народам павінна ня толькі паўстаць пытаньне аб тым, што дасьць нам новы школьны год. Перад намі стаіць аграмаднай важнасьці задача, аб якой трэба рупіцца ўсюды і штодзенна: *дамаганьне беларускай школы.* Толькі нясьведамыя людзі могуць спалохацца таго, што дацяперашняя наша праца ў гэтым кірунку не дала амаль ніякіх вынікаў. Родная школа — гэта наша натуральнае права і мы як разбуджаны народ — зрачыся яго ня можам. Пойдзем за прыкладам нашых суседзяў — украінцаў і літоўцаў — якія ў школьнай галіне маюць шмат паважнейшыя дасягненьні, чым мы. Трэба выкарыстаць усе існуючыя магчымасьці для таго, каб урэшце стварыць сваю родную школу. Трэба на-нова складаць дэклярацыі да школьных уладаў, на агульных вясковых сходах трэба выносіць рэзалюцыі з дамаганьнем адчыненьня школы з роднай выкладовай мовай. У гэтым кірунку асабліва шмат могуць зрабіць і дапамагчы існуючыя беларускія культурна-асьветныя арганізацыі. Перад надыходам новага школьнага году хай уся наша краіна заварушыцца навокала акцыі за родную школу Прыступайма да яе безадкладна!

## Яшчэ аб самаадукацыі

У 1-м нумары „Беларускай Газэты" было паднята пытаньне першараднай важнасьці, а іменна аб самаадукацыі. Трудна з аўтарам не згадзіцца адносна гэтай справы. Бязумоўна, слушным зьяўляецца цьверджаньне, што сучасная пачатковая польская школа ня можа заспакоіць голаду на асьвету, які адчуваецца на Заходняй Беларусі. Школа ў чужой малазразумелай мове, бязумоўна ня спрыяе нармальнаму разьвіцьцю. Ведамы зьявішчы, што дзіця, ходзячы ў польскую школу, ня гледзячы на зусім нармальныя здольнасьці, праз некалькі гадоў не навучаецца навет добра чытаць. Такія скаргі можна пачуць у нас вельмі часта. Пасылаць-жа дзяцей у места ў сярэднюю школу, з прычыны нячуванай галіты нашага сяляніна, няма цяпер ніякай магчымасьці.

Усё гэта вельмі слушна, як слушны далейшыя вывады аўтара стацьці адносна саматужнага, індывідуальнага, ці супольнага навучаньня пры помачы існуючых ужо беларускіх арганізацыяў, або міма іх, калі дзе такіх арганізацыяў няма і быць ня можа з прычыны розных труднасьцяў пры заснаваньні беларускіх гурткоў. „Кожны, хто ўмее чытаць і пісаць пабеларуску — павінен навучыць свайго суседа". „Самаадукацыю на парадак дня"! — кажа аўтар.

Ніхто ўсяму гэтаму не запярэчыць і астаецца толькі пажадаць, каб „Беларуская Газэта" абгаварывала гэтую тэму як найчасьцей, вяла сталую прапаганду пашыраньня асьветы, і каб паўтарала вышэйшыя тэзы сотні разоў, бо толькі тады яны даходзяць шырака і пераконваюць аб іх патрэбе.

Але ёсьць адна старана гэтага пытаньня, аб якой аўтар не гаворыць, магчыма і таму, што прадстаўляе яно сабой у пэўнай меры новае пытаньне, ад закранутай вышэй тэмы мала залежнае. *Гэта пытаньне аб паглыбляньні адукацыі* тых адзінак, якія ці то праз школу, ці праз самавуцтва здабылі пэўную асьвету і лічаць, што ім гэтага хапае.

Сярод беларускай інтэлігенцыі і паўінтэлігенцыі ёсьць шмат адзінак, якія пакончалі навет вышэйшыя школы ў краі або заграніцай. Атрымалі яны тую ці іншую спэцыяльную асьвету і прадстаўляюць сабой „закончаных людзей", якія аб сабе гатовы думаць, што яны, выражаючыся вобразна,—усе розумы паелі. Здараецца аднак, і то даволі часта, што гэтыя нашы дыплёмаваныя інтэлектуалісты. калі падняць гутарку аб штодзенных і найбольш палючых пытаньнях, дык выяўляюць палітаваньня годную ўбогасьць сваей думкі. Што можа быць актуальнейшае ў нашы дні, калі не пытаньні, прыкладам, аб сутнасьці гаспадарчага крызісу, соцыялізму ці нацыяналізму? Аднак нашы некаторыя інтэлігенты ў гэтых пытаньнях аказваюцца проста малаграматнымі. Не хапае такім людзям найзвычайнейшай палітычнай граматы. Але гэта ўсё ані трошкі ім не перашкаджае, надрабляючы міну, крытыкаваць, напр. Маркса, утопічнасьць соцыялізму і г. д. Будуць яны гаварыць аб усім на сьвеце за выняткам аднаго: што яны мала маюць паняцьця аб тым, аб чым гавораць, а часамі і пішуць. Скуткі гэтага зьявішча такія: частка нашай інтэлігенцыі, маючы няраз шырокую веду з галіны прыроды, матэматыкі, моваў — без грамадзкіх і палітычных навук, не стварылі сабе яснага сьветапагляду; балтаюцца на паветры, вышаўшы з туману кадзільнага ў царкве і касцеле, а не дайшоўшы да навуковага разуменьня падставаў людзкога жыцьця. *Гэтае балтаньне ў паветры, гэтая бязхрыбетнасьць зьяўляецца прычынай усялякай безпраграмнасьці і хістаньня* з права налева, або з лева направа, калі яшчэ ня горш: адсутнасьць яснага сьветапагляду робіць чалавека зусім бяздзейным, бязідэйным і здатным хіба толькі да бясплоднай крытыкі ўсяго і ўсіх, або ісьці за тым, хто дае больш.

З гэтым зьявішчам палітычнай безграматнасьці трэба з усей сілай змагацца, нараўне, як з вясковым анальфабэтызмам адносна чытаньня і пісаньня. Трэба ўрэшце зразумець, што сучасная школа ня здольна запоўніць прабелу адносна новых вымогаў жыцьця. Веду, якая-б нам памагла выбрацца з сучаснай мяшаніны паняцьцяў сацыяльнага хаосу і стварыла ясны пагляд на дарогу, куды трэба ісьці — школа нам даць ня можа. Гэтую веду мы павінны *здабыць самі*, а здабыўшы шырыць яе ў масах.

Як да гэтага дайсьці?

Адказ можа быць толькі адзін: самаадукацыяй. Мала прачытаць паважную кніжку, пісаную не ў абароне капіталізму. Трэба яе прастуд'яваць, запамятаць і прадумаць. Калі гэта зроблена —пажыч кніжку другому, каб той рабіў тое самае. Мала гэтага. Ці ў месьце, ці на вёсцы, не наражаючы сябе на адміністрацыйную адказнасьць, згуртуй каля сябе зацікаўленых даным пытаньнем. Абгавары яго колектыўна, вызаві дыскусыю, якая прымусіць цябе і іншых думаць, інтэнсыўней працаваць мазгамі, навучыць у практыцы ўменьня выяўляць тваю думку на славах. Такія дыскусыйныя рэфэраты асабліва карысны там, дзе ўжо існуюць беларускія культурна-асьветныя гурткі, бо ёсьць магчымасьць сабраць большы лік зацікаўленых. Там-жа, дзе такіх гурткоў няма — рэфэраты рабі саматугам, па-хатняму, у малым кругу запрашаных сяброў. На такія хатнія сходкі запрошаных асоб ніякага дазволу ад уладаў ня трэба, ды ўрэшце такі дазвол ня меў-бы і сэнсу, бо трэба было-б тады браць дазвол, каб пагаварыць з сваім суседам.

Такая самаасьветная акцыя ня толькі не перашкаджае акцыі вучэньня няграматных чытаць і пісаць, але ёй яшчэ памагае і яе хронологічна папераджае.

Дык бярэмся сьмела да працы!

*А. Крыўскі.*

## Шукаюць выхаду...

Як на фільмовым экране ў міжнароднай палітыцы падзея зьмяняе падзею. Выпадкі ў Нямеччыне, вайна на Далёкім Усходзе, жэнэўскія нарады ўступілі сяньня мейсца так званаму трактату чатырох, г. зн. падпісанаму ўжо праекту стварэньня ў Эўропе сталага паразуменьня чатырох вялікіх дзяржаў—Англіі, Францыі, Нямеччыі і Італіі. Пасьля невялікіх торгаў і ператоргаў, пасьля нязначнага падшліфаваньня антырэвізыяністычных тэндэнцыяў рымскага праекту, — усе ўспомненыя дзяржавы прышлі да згоды, і падпісаньне трактату сталася фактам дакананым. Паразуменьне, паводле слоў яго тварцоў, мае стаць падставай пацыфікацыі Эўропы, пазваночным слупом, на якім абапрэцца будучыня заходняй цывілізацыі. Асноўная думка палітычнага новатвору зводзіцца да таго, што падпісаўшыя яго дзяржавы, будучы прасякнутымі ідэяй мірнага сужыцьця народаў, пастанавілі паразумевацца з сабой у-ва ўсіх цікавячых іх справах, раней чым гэтыя справы будуць разглядацца ў Лізе Народаў або на іншых міжнародных канфэрэнцыях.

Што-ж такое ў запраўднасьці прадстаўляе сабой трактат ці дыктатура чатырох?

На грунце эканамічнага застою, на грунце нябывалага завастрэньня гаспадарчых і палітычных стасункаў паміж паасобнымі дзяржавамі, на грунце адраджэньня нямецкага імпэрыялізму, на грунце росту сілы і значэньня Савецкага Саюзу— трактат чатырох—гэта ўзмацненьне рэакцыі ў Нямеччыне і Італіі, гэта для Нямеччыны зварот калёніяў, дазбраеньне і рэвізія граніцаў, гэта для Італіі панаваньне на Міжземным моры. Трактат чатырох—гэта падпарадкаваньне „меншых" народаў „вялікім" дзяржавам, гэта ўрэшце шуканьне выхаду з гаспадарчых труднасьцяў коштам усходу. Таму нічога дзіўнага, што падпісаньне трактату выклікала занепакаеньне і варожасьць у ўрадаў іншых эўрапэйскіх дзяржаў, а перадусім у Польшчы, і СССР. Польская ўрадавая прэса піша выразна аб тым, што дырэкторыят чатырох ня толькі ня прычыніцца да пабольшаньне ўзаемнага даверра і мірных настрояў, але, наадварот, выкліча

яшчэ большы неспакой, будзе „фармалізаваньнем хаосу“. Трактат чатырох аканчальна абдзірае Лігу Народу з усякага аўтарытэту, узмацняе „фашызм“ у Эўропе, бо павялічвае асабісты прэстыж Мусоліняга, узносіць угару Гітлера, каторы ўваходам у групу чатырох алігархаў здабудзе большы сукцэс, чым Штрэзэман уваходам у Лігу; далей трактат чатырох узмацняе напружаньне паміж СССР і „капіталістычным сьветам“ і ў будучыні можа пагражаць нейкім „нападам“ на „дзяржаву пралетарыяту“, урэшце, — нішчачы ў народаў пачуцьцё роўнасьці—трактат чатырох зьмяшчае грозныя зярняты вайны“. („Gaz. Pol.“ 1-VI. 33).

Аб істотным характары трактату чатырох пішуць ня толькі тыя, хто зьяўляецца яго праціўнікам, але яго ня скрываюць і самі ініцыятары. Міжнародныя Розэнбэргі інтэнсыўна шукаюць „лініі супольнага дзеяньня“.

У сяньняшняй Эўропе пераважае тэндэнцыя да злагоджаньня церцяў у ўспомненым канцэрце ў абліччы супольнага праціўніка. Жэнэўская газэта „Журналь дэ Націон“, орган уплывовых чыннікаў у Лізе Народаў піша: „Прызнаёмся, што бачым толькі адну магчымасьць зьдзейсьненьня „лініі супольнага дзеяньня“. Гэта—антысавецкая інтэрвэнцыя“. Далей газэта піша аб жывой патрэбе прылучэньня Макдональда і іншых да гэтай ідэй, якую ўжо даўно прапануюць Гітлеры, Дэтэрдзінгі, Біввэрбукі і т. д. Трактат чатырох зьяўляецца адным з яўных, незамаскаваных фактаў „шуканьня выхаду“ у „лініі супольнага дзеяньня“ супроць супольнага праціўніка. Прэса піша, што трактат чатырох—гэта дыктатура вялікіх капіталістычных дзяржаў, якія ў арбіту свае палітыкі хочуць уцягнуць меншыя народы. Таму „трактат чатырох—піша „Газ. Польска з 23-V — без увагі на тое, ці мае зьмест, ці яго ня мае — нічога—апрача замяшаньня і неспакою—у міжнародных адносінах ня можа выклікаць. Паміма найбольш спрытных сфармулаваньняў, трактат чатырох будзе сілаю рэчаў разьбіваць „трактат народаў“ і аслабляць Лігу. Паміма найбольш тонкіх комэнтарыяў арганізаваньне вялікіх капіталістычных дзяржаў мусіць выклікаць у СССР уражаньне, што візыта Розэнбэрга не прамінула бяз сьледу. Каб невядома як тлумачылі іншым дзяржавам, што дырэкторыят ня мае замеру ўпарадкаваньня сваіх унутраных спораў чужым коштам —ня змогуць гэтага вытлумачыць“. А „Газ. Варшаўска“ з 24-V, паклікаючыся на „Тэгліхэ Рундшаў“ аб здваеньні палітычнай актыўнасьці Нямеччыны на ўсходзе і на словы Гітлера, што

„пры адпаведным поглядзе на эўрапейскія праблемы можна было-б бяз труднасьці знайсьці такое разьвязаньне на ўсходзе, каторае прыняло-б пад увагу зразумелае дамаганьне Польшчы таксама, як натуральнае права Нямеччыны“ піша:

„Словы гэтыя набіраюць актуальнага значэньне пасьля падпісаньня „трактату чатырох“. Яны абазначаюць аканчальнае зар‘ентаваньне нямецкай рэвізыяністычнай палітыкі і шэрагу спробаў, каторыя хутка надыдуць, „мірнага“ адабраньне ад нас заходніх правінцыяў і адшкадаваньня нас за гэта коштам нашых усходніх суседзяў“.

З усяго гэтага вынікае, што трактат чатырох зьяўляецца ня крокам да міру, а прыбліжэньнем да вайны, што ініцыятары „дырэкторыяту“ значна пасунулі наперад практычную рэалізацыю ідэі Дэтэрдзінгаў. І таму найбольш энэргічная кампанія супроць яго вядзецца ў Савецкім Саюзе. Савецкая прэса паводле карэспандэнта „Газ. Польскай“ Отмара, усё сваі вастрые скіроўвае перадусім супроць Англіі, бо — піша „Правда“ ідэя трактату нарадзілася фармальна ў Рыме, а фактычна ў Лёндане“, што цесна зьвязана з напружаньнем савецка-ангельскіх адносінаў. Трактат, паводле публіцыстаў савецкай прэсы, ёсьць камбінацыяй рэакцыйных колаў з авантурніцкімі, антысавецкімі мэтамі, ёсьць спробай адчыненьня нямецкаму імпэрыялізму дарогі на Усход, каб у гэтую старану скіраваць яго актыўнасьць. Сытуацыя вытвараная апошнімі выпадкамі ў Эўропе, брак яснай пэрспэктывы на будучыню змушае кіраўнічыя колы некаторых вялікіх дзяржаў шукаць выхаду коштам усходу. *Ю. Дубік.*

# Усё гавораць

Ужо чатыры гады капіталістычныя краіны шукаюць выхаду з гаспадарчага крызісу. Крызіс гэты палягае на тым, што няма куды дзець награмаджаных тавараў — машынаў, прадуктаў, вопраткі, абутку і іншых рэчаў. А гэта здарылася таму, што мільёны людзей у большасьці дзяржаў нашага сьвету вырабляюць тавары, якія належаць да невялікае кучкі людзей.

— Ну, дык што з гэтага—скажуць нам—людзей ня зьменшылася, а прыбыло і яны змаглі-б гэтыя тавары закупіць!

Гэта праўда, людзей пасьля вайны прыбыло шмат, але-ж гаспадары прадпрыемстваў, павялічваючы стала свае прыбыткі, з кожным годам абніжалі заробак рабочага, уздымалі цэны на прамысловыя вырабы, зьніжалі на сельска-гаспадарчыя, расьлі падаткі, запазычанасьць. У выніку ўсяго гэтага — людзі бяз грошай, тавары ў магазынах, няма каму купляць, замыкаюцца фабрыкі і сяньня перад намі 40-тысячная армія безработных.

За гэтыя чатыры гады адбылося ня менш дзясятка розных канфэрэнцыяў, якія ставілі перад сабой пытаньне барацьбы з крызісам. Аднак крызіс пануе і надалей, пашыраючыся на што-раз новыя галіны гаспадарчага жыцьця. Выняткам зьяўляецца хіба толькі ваенная прамысловаць, дзе праца вядзецца ў напружаным тэмпе.

Вось-жа на чацьвертым годзе панаваньня крызісу кіраўнікі такіх краінаў, як Амэрыка, Англія і Францыя — пастанавілі склікаць вялікую сусьветную гаспадарчую канфэрэнцыю і на ёй належна расправіцца з крызісам. Сабралася яна 12-га чэрвеня ў Лёндане, на якую прыбылі прадстаўнікі 67 краінаў, у тым ліку і СССР. Ужо восем дзён дыскутуюць. Усё гавораць. Сварацца на крызіс. Усім вядомы Розэнбэрг, прадстаўнік Гітлера, дагаварыўся да таго, што яго публічна абазвалі „вар‘ятам“ „старым аслом“. Беднага прымушаны былі адклікаць назад у Нямеччыну.

Літвінаў—дэлегат СССР—, як падаюць газэты, ўнёс ажыўленьне. Ён выступіў з прапановай, што Саветы згодны закупіць зараз-жа прамысловых тавараў на 2 мільярды даляроў, што складае 65% усіх вывараў, якія ляжаць бяз руху, але пад варункам, што дзяржавы згодзяцца на доўгатэрміновы крэдыт Саветам. Прапазыцыя гэтая ўсіх, як кажуць, „агарошыла“. Некаторыя дэлегаты трактуюць гэтую прапанову прыхільна, але толькі трактуюць. Ніякіх практычных прапазыцыяў няма.

Ці знойдзе гэтая конфэрэнцыя лякарства на зьнішчэньне гаспадарчае хваробы?

Можна больш чым сумлявацца, бо нават самыя арганізатары яе не грашаць вялікімі надзеямі. Трэба думаць, што яе спаткае лёс папярэдніх падобных канфэрэнцыяў. *А. Б.*

# Што пішуць?

### Эндэкі аб ваеннай небясьпецы.

Ацэніваючы трактат чатырох дзяржаў, эндэцкая „Газэта Варшавска“ з дня 7-га чэрвеня г. г. займаецца пытаньнем ваеннай небясьпекі, якая пагражае Савецкаму Саюзу.

„Імпэрыялістычныя дзяржавы,—піша „Г. В.“, — якія знаходзяцца ў вялікіх гаспадарчых клапотах, загрожаны і агранічаны на сваіх заморскіх рынках, даўно ўжо лакома пазіраюць на расейскія абшары, якія вымыкаюцца з нармальнага сусьветнага гаспадарчага абароту. У розных палітычных і гаспадарчых колах паўстаюць часад-часу праекты ўпарадкаваньня справы расейскага камунізму. Яны ўплываюць на палітыку дзяржаў у адносінах да Расеі і сілаю рэчаў фармуюць погляд заходняга сьвету на праблему становішча Саветаў у эўрапэйскай палітыцы“.

### Ня мір, а падпарадкаваньне.

Дня 12 чэрвеня г. г., як вядома, склікана ў Лёндане Міжнардная Экономічная Канфэрэнцыя. У зьвязку з гэтым эндэцкі экономіст Р. Рыбарскі піша ў „Газ. Варшаўскай (14—V):

„Будуць радзіцца ў Лёндане над экономічным мірам, а адначасна экономічныя войны будуць трываць далей.

Ніякія міжнародныя канфэрэнцыі ня зьменяць факту, што сусьветная гаспадарка ня вернецца да быўшага расквіту, што гаспадарчае жыцьцё народаў будзе ісьці што-раз мацней у глыб, замыкаючыся па меры магчымасьці ў межах дзяржаў. Мытныя муры ня лопнуць пад уплывам дыскусыяў на розных канфэрэнцыях, а тым балей пад уплывам амэрыканскіх прапазыцыяў“.

І канчае:

„Ідэя мытнага міру зьяўляецца спробай утрыманьня перавагі моцных гаспадарча дзяржаў над эканамічна слабейшымі народамі. Яна прадстаўляе пэўнае падабенства да „трактату чатырох“. Некаторыя вялікія дзяржавы хочуць зарганізаваць палітычнае панаваньне над рэштай Эўропы, вызначаць меншым дзяржавам новыя граніцы. Падобна да гэтага Злучаныя Штаты, Нямеччына, Англія хацелі-б бачыць у рэшце сьвету пасыўныя рынкі збыту. Але зьмяніліся часы, мінуў пэрыяд урадаваньня найбольшых дзяржаў над „малымі“, так у палітычнай як і эканамічнай галіне“.

# Віленскае жыцьцё.

*„Мэморыял“*. (Зварот). У канцы прошлага месяца хадэцкія прэзыдыюмы Юбілейнага Камітэту (25-III-1918) і Беларускага Нац. Камітэту ў Вільні зладжылі мэморыял да Мітрапаліта Праваслаўнай Царквы ў Польшчы ў справе адмовы духовенства адслужыць малебен у Прачысьленскім Саборы ў дзень т. зв. 15-х угодкаў Незалежнасьці Беларусі. У тэксьце „мэморыялу“ між іншым чытаем наступныя настаўніцкія павучэньні: „Падвойны беларускі юбілей даваў духавенству вельмі добры повад, каб падыйсьці бліжэй да грамадзянства, каб зьвязаць з ім і жывую сувязь

# Беларуская хадэцыя аб крызісе

Без перабольшваньня трэба назваць сяньня слова „крызіс“ найпопулярнейшым словам у сьвеце. Яго можна пачуць усюды і ад кожнага. Аб ім гавораць у вёсцы, у горадзе, на фабрыках і фальварках, у Эўропе і Амэрыцы; яно на вуснах селяніна, рабочага і гандляра, капіталіста, абшарніка і банкіра, безработнага і батрака, аб ім гутарыць беларус, паляк, немец, жыд і т. д. Слова гэтае сталася ўвасабленьнем убогасьці і руіны для мільёнаў працуючага народу, яно абазначае зьмяншэньне зыскаў для прамысловых і сельскагаспадарчых багацеяў.

„Крызіс“—слова грэцкае і значыць пералом, цяжкае пераходнае палажэньне. Сучасная гаспадарчая завіруха, якая трывае ўжо чацьверты год, прывяла пэўныя слаі людзкасьці да аканчальнае руіны. Сухая цыфра — 40 мільёнаў безработных, што разам з сем‘ямі стварае аграмадную людзкую армію, пазбаўленую сродкаў да жыцьця, гаворыць выразнаю і зразумелаю моваю аб разьмерах катастрофы. І таму няма хіба сяньня ніводнага чалавека, які-б не паставіў перад сабой трагічнага пытаньня аб будучыні людзкасьці, аб прычынах крызісу, аб тым, дзе канец грамадзкага няладу. На гэтым грунце паўстала цэлы шэраг тэорыяў і тэорыйкаў, якіх сяньня ўжо прэса налічвае некалькі... сот і з якіх кожная па-своему стараецца вытлумачыць прычыны гаспадарчага разладу. Адны з іх выводзяць крызісы з плямаў на сонцы, другія—з боскай кары, трэцьція ізноў прычынаў крызісу дашукваюцца ў псыхіцы народаў, у эгоізьме і т. д. Усё-ж паміма нязвычайнай markdown розьнакалёрнасьці ўсіх гэтых тлумачэньняў, іх можна падзяліць на дзьве асноўныя групы: першая стараецца даказаць, што прычыны крызісу гнезьдзяцца ў усім, што толькі прыдзе ў галаву, але ні ў якім выпадку не ў будове цяперашняга ладу, і другая, даказваючая, што крызіс зьяўляецца рэзультатам асаблівасьці сучаснай эканомікі. Першыя хочуць змагацца з крызісам пры адначаснай абароне цяперашняга гаспадарчага ладу; другія — наадварот, для таго, каб зьліквідаваць крызісы хочуць перабудаваць сучасную гаспадарку на іншую, больш дасканальную.

„Бел. Крыніца“ у № 11 з гэтага году, „разьвязваючы“ праблему „галаўнейшых прычынаў сяньняшняга крызісу“ становіцца ў шэрагі арыгінальных „эканамістаў“ першага гатунку. Спачатку аўтар артыкулу „Крызіс і наша вёска“, з мінаю Колюмба робіць такое вось „адкрыцьцё“: „Сяньняшні крызіс, як зьявішча міжнароднае мае свае прычыны“. Мудра сказана! Паводле „Крыніцы“ існуюць на сьвеце і такія зьявішчы, якія ня маюць „сваіх прычынаў“. І далей наш паважаны аўтар пачынае пералічваць самыя прычыны. „Першай з іх зьяўляецца надзвычайны развой тэхнікі, машыны“ значыць, машыны вінаваты, бо „дзе даўней працавала тысяча людзей, сяньня, дзякуючы ўдасканаленай машыне, тую самую работу можа зрабіць чалавек дзесяць“. „Сусьветная вайна ёсьць так-жа прычынай крызісу, а перадусім у Эўропе і Амэрыцы“, бо—тлумачыць «Крыніца»—пасьля вайны Кітай пачаў будаваць свае фабрыкі і рабіць свае тавары, а Расея, дзякуючы рэволюцыі «перастала быць рынкам збыту, прынамсі такім, як быў прад вайной». Трэцьцяй, вялікай (!) прычынай крызісу «зьяўляецца абядненьне вёскі», таму, што селянін ня можа, дзякуючы незаможнасьці, купляць прамысловых тавараў і жыве «як набяжыць». І ўрэшце яшчэ аднэй з крыніцаў гаспадарчага хаосу ёсьць хаваньне капіталаў (грошай) «панамі і фабрыкантамі» па кішэнях або па загранічных банках.

Вось «крынічныя» кіты, «вось галоўнейшыя прычыны сяньняшняга крызісу, які між іншым (!), і на нашай вёсцы зрабіў і робіць страшэнныя спусташэньні».

Пры такім «дасьледаваньні» сутнасьці сяньняшняга гаспадарчага няладу «Бел. Крыніца» магла-б налічыць яшчэ дзясяткі падобных «кітоў». Але выявіць праўдзівую прычыну усіх гэтых «прычынаў», яна ня здольна, бо ня хоча, бо ёй залежыць на зацямненьні, а не на выясьненьні праўдзівых карэньняў крызісу. Гэта станецца зусім зразумелым, калі прыгледзіцца бліжэй да грамадзкага аблічча тае партыі, якую мае гонар рэпрэзэнтаваць «Крыніца», калі ўявіць сабе тую ролю, якую адыгрывае хрысьціянская дэмократыя ў нашым народна-адраджэнскім жыцьці. Ёй залежыць на тым, каб віну за гаспадарчую катастрофу зваліць на ўсё, толькі не на самую будову цяперашняга грамадзтва, каб выхаду з бяды шукаць у-ва ўсім, толькі не ў зьнішчэньні праўдзівых крыніцаў крызісу. Адсюль—віна ў машынах, у хаваньні грошай, у вайне і т. д. Прыблізна з такім самым правам можна было-б сказаць, што за думкі аўтара вінавата не яго галава, а папера «Бел. Крыніцы», дзе гэтыя думкі адбіты.

———

Прычыны крызісу ляжаць у самай сутнасьці цяперашняга способу вытворчасьці. Асноўнай супярэчнасьцю сучаснага грамадзкага ладу, супярэчнасьцю, якая зьмяшчае ў сабе зародкі ўсіх сяньняшніх няладаў, зьяўляецца супярэчнасьць паміж грамадзкім тварэньнем і капіталістычным прысваенным. Гэта значыць, што вытворчасьць сродкаў для падтрыманьня людзкога

